© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №16-17(1-2), 2011

Таццяна Чыжова

# Беларускі штогоднік: аналітыка, навука і публіцыстыка

*Белорусский ежегодник. Сборник обзорных и аналитических материалов по развитию ситуации в Республике Беларусь* (2010). Сост. и ред. А. Паньковский, В. Костюгова. Минск. 438 с.

Селета выйшаў трэці штогадовы зборнік Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў (BISS) і сайту экспертнай супольнасці «Наше мнение» – «*Белорусский ежегодник – 2010*». У 30 артыкулах прадстаўленыя вынікі аналізу палітычных, сацыяльных, культурных і эканамічных працэсаў у Беларусі за 2010 год, акрэсленыя асноўныя тэндэнцыі развіцця сітуацыі ўнутры краіны, пазіцыі Беларусі на знешнім палітычным і эканамічным полі.

Як і ў двух папярэдніх зборніках (за 2008 і 2009 гады), артыкулы гэтага выдання размеркаваныя па такіх базавых раздзелах, як «Дзяржава», «Знешняя палітыка», «Грамадства» і «Эканоміка». Акрамя гэтага, у выданні 2010 года дадаткова быў уведзены раздзел «Выбары». Зрэшты, ен змяшчае толькі два артыкулы, але сама тэма прэзідэнцкіх выбараў (асабліва падзеяў 19 снежня 2010 года) ды іх палітычных і эканамічных наступстваў выступае адною са скразных і так або інакш закранаецца ў бальшыні тэкстаў. Сярод іншых скразных тэмаў можна вылучыць такія, як працэсы лібералізацыі, эканамічныя праблемы Беларусі ды стратэгіі ўлады для іх вырашэння, чыннік знешніх стасункаў ва ўнутранай палітыцы і адваротны чыннік – пацяпленне або «замарожванне» знешніх стасункаў у залежнасці ад дзеянняў беларускіх уладаў на нацыянальным узроўні.

У раздзеле «**Дзяржава**» закранаюцца такія аспекты ўнутранай палітыкі, як праца сілавых ведамстваў, Адміністрацыі прэзідэнта, Савета міністраў, асаблівасці функцыянавання заканадаўчай і мясцовай уладаў, падымаецца праблема мадэрнізацыі вайсковых узбраенняў. Збольшага канстатуюцца тэндэнцыі, якія даўно сталіся звычайнымі для беларускай улады: яе цэнтраімклівая накіраванасць, канцэнтрацыя большасці рычагоў беларускай палітыкі вакол Адміністрацыі прэзідэнта пры ўсе большым дэкаратыўным характары

парламента, памяншэнне ролі прэм'ера і Савета міністраў у кіраванні эканомікаю, зніжэнне эканамічнай самастойнасці мясцовых уладаў і г. д. Пры гэтым, нягледзячы на цэнтралізацыю ўлады, адначасова праяўляецца супрацьлеглая тэндэнцыя – адсутнасць узгодненасці ў дзеяннях дзяржаўных структураў, што, на думку ўкладальнікаў зборніка, сведчыць пра крызіс кіравання ў Беларусі (с. 7).

Напрыклад, артыкул Пятра Валуева «Администрация президента и силовые структуры: до и после выборов президента» (с. 10–20) (падобна, што аўтар артыкула піша пад псеўданімам) прысвечаны рэформам сілавых структураў у Беларусі пасля сыходу Віктара Шэймана з пасады дзяржсакратара Савета бяспекі. Акрамя кадравых перастановак гэтая падзея абярнулася і пэўнымі структурнымі зменамі ў сілавым апараце, што прывяло да зменаў у раскладзе сілаў унутры яго. Аўтар адзначае перападпарадкаванне «сілавікоў» наўпрост Адміністрацыі прэзідэнта, а дакладней – памочніку прэзідэнта ў пытанні нацыянальнай бяспекі Віктару Лукашэнку. У выніку, як лічыць даследнік, гэтыя змены цягам двух гадоў прывялі да павышэння ролі спецслужбаў у дзяржаве, што заканамерна вылілася ў падзеі 19 снежня 2010 года. У сваю чаргу Іна Рамашэўская ў артыкуле «Правительство пятисот долларов» (с. 21–29) аналізуе, як узаемадачыненні Адміністрацыі прэзідэнта і Савета міністраў адбіваюцца на эканамічнай палітыцы беларускага ўрада. На яе думку, дзяржаўнае кіраванне ў Беларусі надта «палітызаванае», што выражаецца ў фактычным падпарадкаванні ўрада рашэнням прэзідэнцкай адміністрацыі. Урад, які на пачатку выступаў за праграму прыватызацыі ды скарачэння бюджэтных выдаткаў (згодна з прапановамі МВФ), у выніку прыняў іншы варыянт выйсця з эканамічнага крызісу (прапанаваны Адміністрацыяй прэзідэнта) – стратэгію «*імпартазамяшчэння, інтэнсіфікацыі экспарту і прыцягнення наўпроставых замежных інвестыцыяў*» (с. 25).

Функцыям і складу ніжняй палаты беларускага парламента прысвечаны артыкул Андрэя Казакевіча «Парламент: дэкаратыўны элемент "заканатворчага" працэсу» (с. 43–51). Як бачна з самой назвы, у гэтым тэксце таксама гаворыцца пра звужэнне функцыяў адной з найбольш істотных структураў улады (а дакладней – цэлай галіны ўлады) з передачай іх «цэнтру» – Адміністрацыі прэзідэнта. Але найбольш цікавая не гэтая канстатацыя сталых тэндэнцыяў, а даследаванне ўнутраных характарыстыкаў Палаты прадстаўнікоў: узроставая дынаміка яе складу з 2000 да 2010 года, наяўнасць дэпутацкіх групаў, партыяў у парламенце і некаторыя высновы з гэтых звестак (напрыклад, пра тое, што «*дэпутацкі мандат функцыянуе, хутчэй, як ганаровая пенсія для прадстаўнікоў рэгіянальнае эліты, а яго роля ў вертыкальнай палітычнай мабільнасці ўстойліва зніжаецца*») (с. 44).

Пазначаныя вышэй тэндэнцыі цэнтралізацыі адбіваюцца і на статусе мясцовых уладаў, пра якія гаворыцца ў артыкуле Змітра Кухлея «Мясцовыя органы ўлады: самакіраванне ў ахвяру лібералізацыі» (с. 52–60).

У прыватнасці гутарка ідзе пра наступленне на эканамічную самастойнасць і працэсы фармавання мясцовых бюджэтаў: «*У 2010 г. кансалідаваны бюджэт Рэспублікі Беларусь стаў яшчэ больш цэнтралізаваным: мясцовыя бюджэты пазбавіліся падатку на раздробны гандаль, мясцовага збору з карыстальнікаў парковак*» (с. 56). У гэтым сэнсе артыкул Аляксандра Алесіна і Андрэя Валодзькіна «Вооруженное сотрудничество: создавая новое на старом» (с. 30–42), прысвечаны праблемам мадэрнізацыі ўзбраення беларускага войска і разгляду ваеннай супрацы Беларусі як з Расіяй і АДКБ, так і з Кітаем, Блізкім Усходам і краінамі АПАД (NATO), стаіць асобна і, хутчэй, упісваецца ў праблематыку раздзелу «Знешняя палітыка».

Нягледзячы на моцны грамадскі рэзананс, выкліканы як самім электаральным працэсам, так і (у большай ступені) брутальным разгонам «Плошчы-2010», раздзел **«Выбары»** складаецца толькі з двух артыкулаў. У адным з іх – матэрыяле Уладзіміра Роўды «Кампания по выборам президента» (с. 61–73) – разглядаюцца тактыкі ўлады і апазіцыі ў перадвыбарчы перыяд і дзень выбараў. У другім – працы Сяргея Нікалюка «Президентские выборы: социология электоральной стабильности» – даецца ацэнка настроям і палітычным прыхільнасцям электарату, а таксама канстатуецца прызнанне расколу ў беларускім грамадстве на афіцыйным узроўні (с. 74–82). У ацэнках мінулых прэзідэнцкіх выбараў дамінуе адсутнасць здзіўлення з хады і вынікаў электаральнага працэсу, але сцэнар дзеянняў улады падчас масавай акцыі 19 снежня 2010 года прызнаецца цалкам неспадзяваным і нематываваным.

Аналіз міжнародных стасункаў Беларусі, прадстаўлены ў раздзеле **«Знешняя палітыка»**, радуе сваей «шматвектарнасцю». Тут есць артыкулы, прысвечаныя беларуска-расійскім стасункам у эканамічнай і палітычнай сферах (артыкул Валерыі Касцюговай і Анатоля Панькоўскага «Российско-белорусские отношения: предел зависимости» – (с. 84–91), стасункам з краінамі Захаду (матэрыял Дзяніса Мельянцова «Беларусь-ЕС: дыялог у чаканні выбараў» – (с. 92–101, артыкул Андрэя Федарава «Беларусь-США: от диалога к санкциям» – (с. 102–110), а таксама з краінамі Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі, арабскага свету (тэкст Сяргея Богдана «Беларуская палітыка ў развіваным свеце: асцярожнае зараблянне грошай» с. 145–156).

Асобны вялікі блок прысвечаны стасункам з краінамі Усходняй Еўропы. Разглядаюцца як блізкія суседзі – Польшча (артыкул Каміля Клысіньскага «Польска-беларускія стасункі: чарговы крызіс» – (с. 111–117) і Украіна (тэкст Генадзя Максака «Беларусь – Украина: новые акценты – открытые возможности» – (с. 118–128), так і рэгіянальная інтэграцыя краінаў Усходняй Еўропы і супраца з імі Беларусі (у тым ліку – у звязку з праграмай Усходняга партнерства): матэрыял Уладзіміра Дунаева «Региональная интеграция на востоке Европы» (с. 129–144).

На першым месцы стаіць пытанне эканамічных стасункаў і практычных выгодаў для Беларусі ад тых або

іншых хаўруснікаў, на другім – імідж нашай краіны ў вачах заходніх суседзяў, яго залежнасць ад стасункаў улады і апазіцыі, а таксама звязаныя з гэтым іміджам канкрэтныя матэрыяльныя набыткі і страты беларускай эканомікі напярэдадні крызісу.

Раздзел **«Грамадства»** мае самы вялікі аб'ем (больш за 200 старонак) і найбольш разнародны змест. Сярод вядучых тэмаў раздзелу:

1) грамадскі сектар – беларускія НДА ў кантэксце еўрапейскай супрацы, роля грамадзянскіх ініцыятываў падчас выбарчай кампаніі, рэлігійныя аб'яднанні ў Беларусі, дынаміка грамадскай думкі цягам 2010 года: артыкул Іны Фядотавай і Віталія Бялоўскага «Гражданское общество: повышенная активность в расчете на будущее» (с. 158–178), тэкст Наталлі Васілевіч «Рэлігійная сфера: напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў» (с. 215–233), матэрыял Надзеі Яфімавай «Общественное мнение: динамика в течение года и некоторые результаты» (с. 275–289);

2) палітычныя партыі Беларусі – прававыя ўмовы, тактычныя рашэнні падчас выбараў, ступень удзелу ў выбарах і праявы актыўнасці пасля іх: артыкул Юрыя Чавусава «Партийные декорации для политического процесса» (с. 179–190);

3) беларускія СМІ і сацыяльныя медыя: тэкст Аляксея Мядзвецкага «СМИ: пиррова победа государства» (с. 191–200) і артыкул Марыны Сакаловай «Интернет и онлайновые медиа» (с. 201–214);

4) культурная і адукацыйная палітыка беларускай дзяржавы (адукацыя, навука, культура, спорт): артыкул Святланы Мацкевіч «Белорусское образование: краткосрочная победа или долговременный проигрыш?» (с. 234–246), матэрыял Аляксандра Грыцанава «Наука: новые задачи как признак упадка» (с. 247–254), тэкст Максіма Жбанкова «Культур-политика: время мутаций» (с. 255–264) і артыкул Барыса Тасмана «Спорт: между олимпийскими взлетами и допинговыми залетами» (с. 265–274).

У гэтым раздзеле ў большасці артыкулаў таксама закранаецца тэма прэзідэнцкіх выбараў, іх уплыву на розныя бакі грамадскага жыцця і ўдзелу ў іх агентаў трэцяга сектара, СМІ, палітычных апазіцыйных структураў і асобных грамадскіх актывістаў. У цэлым канстатуецца далейшая эскалацыя канфлікту паміж дзяржавай і нефармальным грамадскім сектарам, звязаная як з пагаршэннем прававых умоваў для іх існавання, так і з узмацненнем рэпрэсіўных захадаў у дачыненні да грамадскіх актывістаў і журналістаў, з ростам дзяржаўнага кантролю за ўсімі бакамі грамадскага жыцця і яго цалкам імавернай экспансіі ў прыватны свет (праз адсочванне інтэрнэт-актыўнасці). Роля дзяржавы ў культурна-адукацыйнай палітыцы ацэньваецца збольшага як негатыўная (бюракратызацыя, узмацненне кантролю пры адсутнасці наспелых зменаў).

Раздзел **«Эканоміка»** таксама адрозніваецца тэматычнаю разнастайнасцю. У ім ахопліваюцца такія тэмы, як беларускія паказнікі ВУП і стан айчыннай прамысловасці, у тым ліку стан аграпрамысловага комплексу (артыкул Дзмітрыя Крука

«Макроэкономическая ситуация: рост – несмотря ни на что» – с. 290–311, матэрыял Канстанціна Скуратовіча «Сельское хозяйство: рост при сохранении бедности» – (с. 354–364); праводзіцца аналіз банкаўска-фінансавай палітыкі дзяржавы (артыкул Аляксандра Мухі «Валютный рынок и банковская система Беларуси» – с. 312–321); ацэньваецца дынаміка рынку працы і ўзроўню дабрабыту насельніцтва і захады ўрада для яго павышэння ў 2010 годзе (тэкст Кірыла Гайдука «Рынок труда и социальная политика: посткризисное восстановление на фоне президентских выборов» – с. 321–332); закранаюцца энергетычныя праблемы краіны (артыкул Алены Рыбкінай «Энергетический сектор: сокращение ренты» – с. 333–341); разглядаецца інвестыцыйная палітыка (матэрыял Марыі Акулавай «Внешние инвестиции: не просто привлечь, а привлечь с пользой» − с. 342–353).

Як і ў іншых тэматычных раздзелах, у эканамічным раздзеле большасць пытанняў так або інакш разглядаецца ў кантэксце прэзідэнцкіх выбараў: канстатуецца штучнае «надзіманне» ВУП у 2010 выбарчым годзе пасля крызіснага 2009-га; гаворыцца пра павышэнне заробкаў і дадатковых выплатаў напярэдадні выбараў, якое выклікала неадназначную рэакцыю насельніцтва ў выглядзе скупкі валюты і пераводу рублевых укладаў у валютныя; аналізуюцца традыцыйныя паслявыбарныя «гульні» вакол нафтагазавых дамоваў з Расіяй; прагназуюцца эканамічныя наступствы падзеяў 19 снежня 2010 года, іх уплыў на эканамічную супрацу з краінамі ЕС і ЗША. У цэлым гаворка ідзе пра нарастанне новага вітка крызісу ў Беларусі і магчымыя стратэгіі ўлады падчас яго (пошук інвестыцыяў, новыя пазыкі, прыватызацыя і продаж буйных прадпрыемстваў і г. д.).

Апошні «Беларускі штогоднік» атрымаўся крыху большым па аб'еме, чымся аналагічны зборнік 2009 года, дзякуючы надрукаванаму напрыканцы кнігі дадатку **«BISS Trends»** – штоквартальнаму аналізу, прысвечанаму «*ацэнцы найістотнейшых палітычных, эканамічных, сацыяльных, знешнепалітычных і культурных тэндэнцыяў сучаснай Беларусі*» (с. 366). У зборніку 2010 года прадстаўленыя пяць адпаведных выданняў. Сярод апошніх значных трэндаў называюцца наступныя: кропкавая прыватызацыя прадпрыемстваў на фоне заяваў аб «эканамічнай лібералізацыі», спробы наладзіць стасункі з ЕС, супраца з МВФ, па-ранейшаму супярэчлівыя адносіны з Расіяй, пошук шляхоў «прымірэння» з грамадзянскаю супольнасцю шляхам зніжэння ўзроўню рэпрэсіяў (але пры гэтым цалкам імавернаю бачыцца «*ліквідацыя непажаданых для ўладаў НДА і палітычных партыяў, стварэнне перашкодаў для іх дзейнасці*» (с. 426), «зачыстка» ландшафту нефармальнай беларускай культуры пры дэманстратыўнай кропкавай беларусізацыі. Як бачна, прадказанні атрымаліся даволі асцярожныя (а ў асобных выпадках – супярэчлівыя). Спраўдзіліся некаторыя з іх (акрамя прагнозаў адносна знешнепалітычных адносінаў, супрацы з МВФ і «прымірэння» з грамадзянскаю супольнасцю).

Артыкулы зборніка можна падзяліць на дзве катэгорыі: аналітычныя з элементамі навуковасці і публіцыстычныя.

Першыя заснаваныя на пэўных эмпірычных даследаваннях, маюць даволі «сухі» аналітычны характар («Вооруженное сотрудничество: создавая новое на старом» Аляксандра Алесіна і Андрэя Валодзькіна, «Парламент: дэкаратыўны элемент "заканатворчага" працэсу» Андрэя Казакевіча, «Беларусь-ЕС: дыялог у чаканні выбараў» Дзяніса Мельянцова, «Партийные декорации для политического процесса» Юрыя Чавусава ды іншыя). У іх няшмат нечаканых высноваў – пачасту там канстатуюцца і эмпірычна пацвярджаюцца даволі агульнавядомыя (зразумелыя на «інтуітыўным» узроўні) рэчы. Напрыклад, падрабязны разгляд беларускага парламента ў артыкуле А. Казакевіча на прадмет узросту дэпутатаў і наяўнасці (ці хутчэй адсутнасці) у Палаце прадстаўнікоў партыйных фракцыяў або аб'яднанняў у непалітычныя групоўкі эмпірычна пацвярджае дэкаратыўны характар гэтага органа заканадаўчай улады. Дарэчы, «дэкаратыўнасць» беларускай палітыкі канстатуецца і ў артыкуле Ю. Чавусава, прысвечаным удзелу палітычных партыяў у мясцовых і прэзідэнцкіх выбарах 2010 года, – у цяперашніх умовах нават змякчэнне заканадаўства не зробіць партыі рэальнымі суб'ектамі палітыкі, сцвярджае аўтар.

Здавалася б, у абодвух выпадках мы маем справу з высновамі, якія даўно зрабіліся «агульным месцам» у беларускай незалежнай прэсе, у дыскурсе апазіцыйна настроенай часткі грамадства. Але такога кшталту рэчы мала прамаўляць – трэба яшчэ і прыводзіць аргументы. Па-першае, таму, што з боку афіцыйнай журналістыкі і аналітыкі (як і палітычнай навукі) выказваецца супрацьлеглы погляд на рэчы – звычайна таксама вельмі слаба падмацаваны доказамі. У выніку замест веды пра Беларусь мы найчасцей маем сутыкненне дзвюх ідэалагемаў. У той час як (па-другое) беларуская палітычная і сацыяльная рэчаіснасць патрабуе аналізу на навуковым узроўні, які б грунтаваўся на канкрэтных эмпірычных звестках. Тэксты «Штогодніка», заснаваныя на такога кшталту матэрыялах, часткова запаўняюць сабой гэты прабел.

Артыкулы другога тыпу (іх у зборніку менш) – палемічныя, яны ўтрымліваюць больш смелых тэзісаў і высноваў: «Администрация президента и силовые структуры: до и после выборов президента» Пятра Валуева, «Правительство пятисот долларов» Іны Рамашэўскай, «Кампания по выборам президента» Уладзіміра Роўды, «Культур-политика: время мутаций» Максіма Жбанкова, «Гражданское общество: повышенная активность в расчете на будущее» Іны Фядотавай і Віталія Бялоўскага ды інш. Выкладзеныя ў іх развагі наконт сітуацыі ў краіне, хутчэй, выражаюць аўтарскі погляд і не заўседы падмацаваныя канкрэтнымі фактамі, а некаторыя артыкулы зусім не ўтрымліваюць спасылак на крыніцы інфармацыі. Гэтак, у згаданым вышэй артыкуле П. Валуева «Администрация президента и силовые структуры: до и после выборов президента», якім пачынацца «Штогоднік»,

раскрываюцца «патаемныя спружыны» працы сілавых органаў: апісваецца расклад сілаў і канкурэнцыя паміж імі, іх роля ў выбарах прэзідэнта ў 2010 годзе. Але такога кшталту тэкст, што чытаецца амаль як захапляльны дэтэктыў, можа паслужыць хіба толькі дапаможным матэрыялам, «глебаю для роздумаў», але не выкарыстоўвацца для даследчых мэтаў, бо не мае спасылак на крыніцы інфармацыі.

У артыкуле Іны Рамашэўскай «Правительство пятисот долларов» сустракаецца такі даволі моцны тэзіс: «*…год прэзідэнцкіх выбараў, на гэты раз яшчэ больш рэльефна, прадэманстраваў, што дзяржаўная палітыка Беларусі з'яўляецца вытворным фактарам ад змешчанай на яе тэрыторыі інфраструктуры па перапрацоўцы і транспарціроўцы нафты*» (с. 22). З прыведзеным выказваннем шмат хто пагодзіцца (зноў жа на «агульнаінтуітыўным» узроўні), але для пацвярджэння або абвяржэння яно патрабуе сур'езнай аргументацыі, заснаванай на даследаваннях. Такога кшталту мэта, натуральна, не стаяла перад аўтаркаю тэксту, дый само даследаванне пры ўсім жаданні не магло быць уціснутае ў рамкі артыкула.

Кажучы пра грамадзянскую актыўнасць падчас выбараў 2010 года, Іна Фядотава і Віталій Бялоўскі («Гражданское общество: повышенная активность в расчете на будущее») сцвярджаюць, што, на іхны погляд, «*найбольшы ўплыў грамадзянскай супольнасці на пашырэнне грамадзянскай уцягнутасці і рэальныя вынікі прэзідэнцкіх выбараў выявіліся падчас правядзення грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду!"*» (с. 169). Але выказанае меркаванне падмацоўваецца хіба канстатацыяй таго, што кампаніі «Гавары праўду!» удалося акумуляваць значныя фінансавыя рэсурсы ды прыцягнуць увагу сілавых структураў: «*Пра ўплыў кампаніі на настроі ў грамадстве сведчыць тое супрацьдзеянне, якое ўлады аказвалі яе дзейнасці яшчэ да пачатку палітызацыі*» (с. 171).

Як можна заўважыць, хаця ў раздзеле «Выбары» прысутнічаюць толькі два артыкулы, сама тэма прэзідэнцкіх выбараў 2010 года есць скразною для зборніка і тым або іншым чынам прысутнічае ў артыкулах, прысвечаных як уласна палітычнаму, так і эканамічнаму ды культурнаму жыццю Беларусі. Яшчэ адным агульным месцам шмат якіх артыкулаў выступае выказванне пра неабходнасць «рэформаў» (найперш эканамічных), але пры гэтым застаецца незразумелым, што стаіць за гэтым словам для кожнага аўтара. Такое абстрактнае стаўленне да рэформаў, у прынцыпе, уласцівае ці не ўсей беларускай незалежнай журналістыцы, але выглядае недарэчным у навукова-аналітычных тэкстах.

Істотнаю хібаю зборніка, на маю думку, есць тое, што мова абсалютнай большасці матэрыялаў – руская, беларускамоўных тэкстаў тут усяго шэсць з трыццаці (нягледзячы на тое, што амаль усе аўтары – мясцовыя аналітыкі, а сам «Штогоднік» разлічаны пераважна на беларускага чытача).

У цэлым «*Беларускі штогоднік*» за 2010 год можна ахарактарызаваць як інфарматыўны, шматстайны – ен прэтэндуе на ўсеахопны аналіз беларускай рэчаіснасці. Тэксты,

змешчаныя ў зборніку, збольшага вытрымліваюць пэўную планку якасці, хаця адрозненні ў глыбіні прадстаўленай аналітыкі непазбежныя. У прыватнасці, хапае артыкулаў, у якіх прыводзіцца шмат цікавых фактаў, на падставе чаго будуюцца аўтарскія высновы, але пры гэтым выказаныя сцверджанні зусім не падмацоўваюцца крыніцамі інфармацыі. Такім чынам, частка тэкстаў набывае характар, хутчэй, публіцыстычны, чым экспертна-аналітычны – іх цікава чытаць, але наўрад ці на іх мэтазгодна спасылацца.

Выданне можа быць карыснае для даследнікаў сучаснай Беларусі, журналістаў, грамадскіх і палітычных актывістаў, замежнікаў, якія цікавяцца беларускаю праблематыкаю, а таксама для студэнтаў у галіне сацыяльных навук.